Прачытай сам і перадай другому.

На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадо...
*Якуб КОЛАС*

№ 76 (4534)

25 верасня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

ОКАЯННЫЕ ДНИ

# Инаугурация, которой никто не ожидал



Утро 23 сентября. Если бы не какая-то странная активность силовиков возле Дворца Независимости и не перекрытие для автомобилистов центральных улиц Минска, то никому и в голову не могло прийти, что буквально через пару часов начнется инаугурация Александра Лукашенко. Когда-то о таком торжественном мероприятии оповещалось за несколько дней. А тут – полная тайна. Журналистам «РИА Новости», позвонившим в ЦИК непосредственно в среду, как только начался рабочий день, сказали, что *«про инаугурацию не слышали, но сама глава комиссии Лидия Ермошина куда-то уехала»*.

Как позже стало известно – на коронацию А.Лукашенко, о которой власти не сообщили заранее, на которую не пригласили иностранные делегации и СМИ. Не было и прямой телетрансляции, хотя по закону «О Президенте» это является обязательным пунктом. Информация об инаугурации держалась в тайне до тех минут, пока кортеж А.Лукашенко не остановился у парадного входа во Дворец Независимости.

Нет смысла пересказывать, как все происходило позавчера в главной президентской резиденции, что на проспекте Победителей в столице, – об этом сообщили буквально все сайты. Важнее другое – какой оказалась реакция со стороны как независимых экспертов, аналитиков, так и белорусского общества, зарубежной политической элиты. По мнению первых, тайная инаугурация свидетельствует о неуверенности власти в самой себе и о кризисе легитимности.

– Власть чувствует хрупкость своих позиций внутри и за пределами страны настолько, что вынуждена была провести такую важную и торжественную процедуру фактически тайно. Основным фактором является опасение, что это вызовет новую волну протестов, которую все равно надо будет ждать в ближайшие выходные, – считает, например, политолог, директор Института политических исследований «Палітычная сфера» **Андрей Казакевич**.

А вот подборка информации, свидетельствующая о крайне негативном восприятии события, произошедшего в Минске 23 сентября, международным сообществом.

РЕАКЦИЯ

## Евросоюз не признал легитимной инаугурацию Лукашенко

Верховный представитель Евросоюза по иностранным делам и политике безопасности **Жозеп Боррель** выступил с официальным заявлением по поводу инаугурации Александра Лукашенко.

Боррель напомнил, что ЕС не считает свободными и справедливыми президентские выборы, состоявшиеся 9 августа в Беларуси. ЕС не признает результаты голосования, так как считает их сфальсифицированными. В связи с этим союз также отказывается признавать демократически легитимной инаугурацию Лукашенко 23 сентября.

*«Эта «инаугурация» прямо противоречит воле значительной части населения Беларуси, что выражается в многочисленных и беспрецедентных мирных протестах после выборов»*, – заявил Верховный представитель ЕС.

По мнению Борреля, инаугурация Лукашенко приведет лишь к углублению политического кризиса в Беларуси. В ЕС считают, что белорусы заслуживают права на новые прозрачные и свободные выборы. В связи с последними событиями ЕС намерен пересмотреть свои отношения с Беларусью.

ЕС выразил солидарность с протестующими и выступил за прекращение насилия и политических репрессий. По мнению Борреля, **единственный выход из сложившейся ситуации – национальный диалог и выполнение требований народа о новых президентских выборах**.

### Штеффен ЗАЙБЕРТ, представитель Кабинета министров Германии:

– Александр Лукашенко, который 23 сентября провел тайную инаугурацию, не может рассчитывать на демократическую легитимность.

### Дмитрий КУЛЕБА, министр иностранных дел Украины:

– Украина никогда никоим образом не вмешивалась во внутренние дела Беларуси и всегда будет поддерживать белорусский народ. Учитывая ход избирательной кампании в Беларуси и дальнейшие события, сегодняшняя «инаугурация» А.Лукашенко не означает его признания легитимным главой белорусского государства.

### Линас ЛИНКЯВИЧЮС, министр иностранных дел Литвы:

– Какой фарс! Поддельные выборы! Поддельная инаугурация! Бывший президент Беларуси не становится менее бывшим. Его нелегитимность – это факт со всеми вытекающими последствиями.

### Урмас РЕЙНСАЛО, министр иностранных дел Эстонии:

– Сегодняшняя нелегитимная инаугурация Лукашенко противоречит всем принципам демократии. Лукашенко явно лишился своего мандата. Мы призываем к свободным и справедливым выборам для жителей Беларуси, чтобы получить того президента, которого они заслуживают.

### Томаш ПЕТРШИЧЕК, министр иностранных дел Чехии:

– Выборы в Беларуси не были свободными и честными. Поэтому их результаты нелегитимны, поэтому нелегитимна и сегодняшняя инаугурация Александра Лукашенко. Чехия полностью поддерживает белорусское гражданское общество. Белорусы заслуживают свободы.

## Как МИД Польши отреагировал на инаугурацию Лукашенко

Министерство иностранных дел Польши отреагировало на инаугурацию Александра Лукашенко сообщением в Twitter:

*«Президент, избранный на недемократических выборах, не может рассматриваться как осуществляющий законную власть независимо от того, является ли принесение присяги тайным или официальным».*

## США отказались признавать Лукашенко легитимным президентом Беларуси

В среду 23 сентября представитель Госдепартамента США заявил, что США не могут считать Александра Григорьевича Лукашенко законно избранным президентом Беларуси, несмотря на прошедшую инаугурацию на 6-й срок его пребывания на этом посту.

– Выборы 9 августа не были ни свободными, ни честными. Объявленные результаты были сфальсифицированы и не соответствовали действительности. Соединенные Штаты не могут считать Александра Лукашенко законно избранным лидером Беларуси.

Путь вперед в Беларуси, как заявил представитель Госдепартамента США, должен быть отмечен национальным диалогом, ведущим к тому, чтобы народ Беларуси выбрал своих лидеров на справедливых, свободных выборах под независимым наблюдением.

# Вадамёты супраць пратэстоўцаў

Людзей, якія сабраліся ў сталіцы ля стэлы, спачатку адцяснілі сілавікі са шчытамі і дубінкамі. А потым у ход пусцілі вадамёты, якія распылялі ў бок пратэстоўцаў вадкасць іржавага колеру. Паводле слоў сведак, ад вадкасці заставаўся моцны непрыемны пах.



Пры гэтым вадамёт працаваў не “прамой наводкай” – гэта значыць не шпурляў ваду наўпрост ва ўдзельнікаў пратэсту, як робіцца звычайна пры падаўленні. Струмень ішоў высока ўверх, па-над галовамі, як быццам сэнс быў у тым, каб накрыць максімальную колькасць людзей, адзначаў партал *TUT.BY*.




Калі пачаліся затрыманні на праспекце Пераможцаў, нехта аддаў каманду вырубіць святло, таму ў тых, хто жыве ў раёне стэлы, знікла электрычнасць.

Брутальныя затрыманні пратэстоўцаў адбываліся ва ўсіх кутках Мінска ажно ды глыбокай ночы. Не працавала станцыя метро “Няміга” – яе адкрылі каля поўначы. Каб разагнаць пратэстуючых, прымяняліся не толькі вадамёты, але і спецсродкі, у некаторых раёнах сталіцы чуліся стрэлы. Многім затрыманым была патрэбна медыцынская дапамога. Прычым АМАП і іншыя падраздзяленні працавалі надзвычай жорстка, быццам бы ім нехта сапраўды аддаў каманду “Фас!”...

Дарэчы, у цэнтры Мінска людзьмі з дубінкамі камандаваў начальнік ГУБАЗіК Мікалай Карпянкоў, той самы, які раней размалаціў уваходныя дзверы ў адну з кавярань.

Тысячы і тысячы беларусаў успрынялі інаўгурацыю А.Лукашэнкі як абразу – усім вядома, што вынікі прэзідэнцкіх выбараў брутальна сфальсіфікаваны. Таму, нягледзячы на рабочы дзень, не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах распачаліся пратэстныя акцыі.

**Павел МАЗАК.**



ВИДЕООБРАЩЕНИЕ

## Светлана Тихановская объявила себя лидером белорусского народа

Лидер белорусской оппозиции Светлана Тихановская записала видеообращение, посвященное «тайной инаугурации» Александра Лукашенко на пост президента Беларуси. В нем она назвала себя единственным лидером белорусского народа. Видео опубликовано в телеграм-канале «Пул Первой».

Вот фрагмент текста:

«Я, Светлана Тихановская, являюсь единственным лидером, который избран белорусским народом . И наша задача сейчас – вместе построить новую Беларусь.

Два дня назад я закончила визит в Брюссель. Я встречалась с европейскими лидерами, министрами иностранных дел, выступила в Европарламенте и общалась с белорусскими диаспорами.

Страны Европы поддерживают белорусский народ в требовании остановить насилие, освободить политзаключенных и провести новые – честные и прозрачные – выборы. Они готовы оказать реальную помощь – существуют серьезные инвестиционные пакеты, которые предусмотрены для Беларуси после победы демократии.

И вместе мы победим!»

СКАЗАНА!

## Лукашэнка – аб стаўленні заходніх краін да вынікаў выбараў і легітымнасці Прэзідэнта

– Крычаць аб тым, што яны нешта не прызнаюць у нас. Вы ведаеце, мы нікога і не прасілі прызнаваць або не прызнаваць нашы выбары, прызнаваць легітымнасць нававыбранага Прэзідэнта або не прызнаваць. Галоўнае, каб гэта адпавядала Канстытуцыі нашай краіны. І калі яны бачаць неадпаведнасці, лепш аб гэтым няхай скажуць.

ПАД ПРЭСАМ

# Ягора Марціновіча – на волю!

*Раніцай 23 верасня, у дзень так званай інаўгурацыі, у кватэры галоўнага рэдактара “Нашай Нівы” прайшоў вобыск. **Ягора Марціновіча** затрымалі па падазрэнні ў паклёпе, змешчаным у матэрыяле, дзе згадваецца намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі **Аляксандр Барсукоў**.*

“Да нас у кватэру можна было прыводзіць студэнтаў юрфака, каб паказваць, як павінен праходзіць узорныператрус, – *распавяла жонка Марціновіча журналістка* ***Адар’я Гуштын***. – Праводзілі яго аператыўнікі УСБ МУС. Мы дабіліся, каб панятымі былі нашы суседзі, каб наператрус пусцілі адваката, каб аглядалі пакоі па чарзе, каб усё карэктна ўпісалі ў пратакол. Ягор паеў і памыўся, адпаведным чынам апрануўся і ўзяў з сабой усё неабходнае, маральна і інфармацыйна ён таксама падрыхтаваўся”.

*Учора Следчы камітэт заявіў:* “Следчым камітэтам расследуецца крымінальная справа аб паклёпе. Паводле дадзеных следства, у сярэдзіне жніўня бягучага года на інтэрнэт-рэсурсе «Наша Ніва» змешчана публікацыя, якая ўтрымлівае заведама несапраўдныя звесткі, якія прыніжаюць гонар і годнасць і ганьбяць намесніка міністра ўнутраных спраў Беларусі. Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа па арт.188 Крымінальнага кодэкса. Па падазрэнні ў здзяйсненні паказанага злачынства затрыманы галоўны рэдактар рэсурсу. Абставіны супрацьпраўных дзеянняў высвятляюцца. Праводзіцца расследаванне.

За восем месяцаў бягучага года па арт.188 Крымінальнага кодэкса распачата 27 крымінальных спраў. Следчы камітэт нагадвае, што паклёп цягне за сабой не толькі адміністрацыйную, але і крымінальную адказнасць”.

*Адвакат* ***Сяргей Зікрацкі*** *даў кароткі юрыдычны лікбез, чаму журналіста наогул нельга судзіць за паклёп.*

«Міжнародныя прынцыпы свабоды выказвання меркавання і дзейнасці медыя зыходзяць з таго, што адказнасць за паклёп можа быць толькі грамадзянска-прававая, – *гаворыць Зікрацкі*. – Калі былі распаўсюджаны звесткі, якія кагосьці ганяць, то на медыя або журналіста можа быць накладзены штраф. Аднак журналіст не можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Але ў некаторых краінах яшчэ засталася крымінальная адказнасць за паклёп. Таму – па-другое.

Па-другое, арт.188 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжвае, што адказнасць за паклёп надыходзіць толькі пры наяўнасці прамога намеру. Гэта азначае, што асоба ведае, што звесткі недакладныя, і тым не менш іх распаўсюджвае.

Журналіст, які атрымлівае інфармацыю ад сваіх крыніц, не можа дакладна ведаць, кажа крыніца праўду ці не. У гэтай сувязі ў журналіста ў абсалютнай большасці выпадкаў не можа быць прамога намеру на распаўсюджванне ілжывых выказванняў.

Упэўнены, што справа ў дачыненні да Ягора Марціновіча павінна быць неадкладна спынена”.

*ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” таксама выступае за дэкрыміналізацыю дыфамацыі ў прынцыпе.*

“У крымінальным пераследзе Ягора Марціновіча (з прыцягненнем да гэтага пераследу супрацоўнікаў сілавых структур) мы бачым таксама праявы цэнзуры і злоўжыванне прававымі нормамі для абмежавання свабоды слова, – *гаворыцца ў спецыяльнай заяве БАЖ*. – Мы патрабуем неадкладнага вызвалення Ягора Марціновіча і спынення крымінальнага пераследу!”

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
25 ВЕРАСНЯ 2020 г.

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

# Якую таблічку можна вывесіць на дзвярах МЗС…

У апошнія гады, асабліва пасля Крыма, беларускія афіцыйныя асобы (Лукашэнка, Макей і іншыя) шмат увагі надавалі абгрунтаванню канцэпцыі шматвектарнасці. Беларусь як краіна-міратворца, “Хельсінкі-2”, донар стабільнасці рэгіёна і гэтак далей.

Эксперты, у тым ліку незалежныя, падводзілі пад гэта тэарэтычны падмурак. Яны (напрыклад, Яўген Прэйгерман) шмат пісалі, што замежная палітыка Беларусі абумоўлена геапалітычным чыннікам, таму невялікай краіне, якая знаходзіцца паміж двума моцнымі цэнтрамі сілы (Расія і Еўрасаюз), проста наканавана праводзіць палітыку балансавання, сябраваць з усімі, дыверсіфікаваць адносіны, пазбягаць моцнай залежнасці толькі ад адной краіны і г.д. З тэарэтычнага гледзішча, здаецца, усё правільна.

І трэба ж было здарыцца цяперашняму палітычнаму крызісу, каб усе гэтыя абстрактныя пабудовы разляцеліся ўшчэнт!

Высветлілася, што для аўтарытарнага рэжыму замежная палітыка – усяго толькі спосаб, сродак, інструмент утрымання ўлады адным чалавекам. І больш нічога. Знешнепалітычны разварот цягам літаральна некалькіх дзён прадэманстраваў гэта ў крышталь чыстым выглядзе.

Тое, што гэтую функцыю (утрыманне ўлады) выконваюць, напрыклад, сілавыя структуры, праваахоўныя органы, было зразумела і раней. А вось Міністэрства замежных спраў, здавалася б, трохі іншае ведамства, якое выходзіць з дзяржаўных інтарэсаў, што так хутка не мяняюцца. А аказалася, насамрэч усё значна прасцей і прымітыўней. Увесь дзяржаўны інтарэс звёўся да таго, каб дапамагчы «пасінелым пальцам».

Лукашэнка апошнімі гадамі шмат гаварыў пра неабходнасць умацавання суверэнітэту Беларусі. На гэтай ідэі была фактычна пабудавана ягоная перадвыбарная кампанія. Маўляў, беларусы не павінны больш хадзіць «пад бізуном». А як толькі запахла смажаным, узнікла пагроза ўладзе, дык адразу стаў прасіць Пуціна ўвесці ў Беларусь расійскія войскі. Улада для яго важнейшая за суверэнітэт.

17 верасня Лукашэнка выступае ў Мінску на мерапрыемстве ў сваю падтрымку. На нашых вачах адсякаецца заходні вэктар. 18 верасня кіраўнік беларускага МЗС Уладзімір Макей пагражаў, што калі Еўрасаюз прыме санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі, то Мінск можа разарваць дыпламатычныя адносіны з дзяржавамі Еўрапейскага Саюза.

А 21 верасня старшыня камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Андрэй Савіных заявіў, што «шматвектарная палітыка... больш не забяспечвае патрэбных ўмоваў для спрыяльнага развіцця Беларусі» і найвышэйшым прыярытэтам для краіны становіцца «ўмацаванне палітычных, эканамічных і ваенных стасункаў з Расійскай Федэрацыяй у рамках саюзнай дзяржавы».

Значыць, дасюль шматвектарная палітыка спрыяла развіццю краіны, а цяпер раптам перастала. Прага ўлады аднаго чалавека падмяніла нацыянальныя інтарэсы.

Некаторыя эксперты назвалі працэс апошняга месяца «дэфолтам» замежнай палітыкі Беларусі. Сапраўды, адмова ад шматвектарнасці, вяртанне да аднаго вектара азначае, што замежная палітыка ў звычайным сэнсе знікае. Як і дыпламатыя. Каб кантактаваць з расійскімі чыноўнікамі, МЗС не патрэбны. Адносіны з РФ адбываюцца, як правіла, пры мінімальным удзеле Міністэрства замежных спраў. Нагадаю, што пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Сямашка адначасова з'яўляецца і віцэ-прэм'ерам. Значыць, ён мае большы ранг, чым Уладзімір Макей, які ўсяго толькі міністр.

Таму на дзвярах МЗС цяпер можна вывесіць таблічку: «Міністэрства закрыта, усе пайшлі на фронт барацьбы за ўтрыманне ўлады Лукашэнкі».

СТОП-КАДР



Учора падчас сустрэчы з кітайскім паслом Аляксандр Лукашэнка сказаў:

*– Ну а што датычыцца ўчарашняга мерапрыемства, то вы, напэўна, не маглі не заўважыць, што картэж Прэзідэнта нетрадыцыйна ехаў па ўсім горадзе. Мы як адчувалі, што нас могуць папракнуць у нейкай канспіралогіі. Мы праехалі па ўсім горадзе, людзі гэта бачылі. Таму ніякай тайны няма.*

Не будзем казаць, хто і як праехаў “па ўсім горадзе”, але вось так выглядаў праспект Незалежнасці за некалькі хвілін да таго, як на ім з'явіўся картэж А.Лукашэнкі. Міліцыя пастаралася зачысціць яго так, каб не было ні машын, ні людзей.

МНЕНИЕ

Павел ЛАТУШКО, экс-министр культуры, экс-посол, экс-директор Национального драматического театра имени Я.Купалы, член президиума Координационного совета:

– Мы стали свидетелями беспрецедентной ситуации. Уходящий президент, который утверждает, что набрал более 80 процентов голосов на выборах, провел спецоперацию по своей самоинаугурации. Под охраной ОМОНа, в обстановке тайны и секретности, в узком кругу спешно свезенных чиновников. Где ликующие граждане? Где дипломатический корпус? Честно говоря, это больше напоминает воровскую сходку для коронации очередного вора в законе. Очевидно, что Александр Лукашенко президент исключительно ОМОНа и горстки завравшихся чиновников.

РАКУРС

# Патаемны прэзідэнт

Віктар МАРЦІНОВІЧ

Інаўгурацыя была прыдумана ў Старажытным Рыме як магічны рытуал, гаданне аўгура па палёце птушак (згадайма выпадак з сокалам, які не ўтрымаў пацука і кінуў яго перад Домам урада падчас пасяджэння ЦВК па рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты 14 ліпеня). Менавіта прагноз удзельніка аўспіцыі пра тое, якім будзе кіраванне таго ці іншага чалавека, «трансляваў» волю няйбёсаў і дапамагала пазбегнуць фатальных памылак.

Пасля таго як хрысціянства выціснула паганскія забабоны, інаўгурацыя ператварылася ва ўрачыстую заяўку манарха на трон.

Менавіта гучнасць і размах тут вызначалі «паспяховасць» працэдуры. Усе жыхары каралеўства мусілі даведацца і спрычыніцца да каранавання новага лідара дзяржавы. І нават калі яны не былі запрошаны, яны мусілі ведаць і рыхтавацца да гэтага ўрачыстага дня.

Падзею, якая адбылася 23 верасня, з цяжкасцю можна назваць інаўгурацыяй, бо яна не мела аднаго з прынцыповых складнікаў інаўгурацыі – гучнасці і адкрытасці.

Яе не проста не анансавалі, яе дату адмаўляліся назваць тады, калі ў Палац ужо падцягваліся запрошаныя.

Вы ўжо заўважылі, што яе насуперак закону не транслявалі па тэлебачанні, не ўнеслі ў сетку праграм?

Але што больш важна – на ёй не прысутнічалі тыя, хто мусіў прысутнічаць: усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў як прадстаўнікі народа (улада жыве ў тым сэнсе, дзе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў сапраўды абірае народ); дыпламаты ўсіх замежных дзяржаў – як падмурак міжнароднай легітымнасці.

Такой «інаўгурацыі» не ведае гісторыя, такога не адбывалася проста нідзе дагэтуль.

Больш за тое, прыметнікі «сакрэтная», «патаемная» з'яўляюцца антонімамі паняцця «інаўгурацыя».

Гэта як спеў шэптам.

Ці нерухомы танец.

Патаемнае ўступленне на пасаду вострa ставіць шэраг пытанняў.

Калі ўступленне на пасаду адбываецца таемна, дык і ўладаранне мусіць адбывацца таемна, не?

Што адчулі сотні тысяч «вертыкальшчыкаў», якія працягвалі ўпэўнівацы сябе, што ўлада папулярная, а прэтэндуюць толькі дзве-тры тысячы адмарозкаў? Калі пагроза вулічных выступленняў вымушае праводзіць максімальна публічныя цырымоніі ў рэжыме сакрэтнасці, як будуць выконвацца законы, дэкрэты, указы? Якую сілу яны цяпер маюць? Хто і ў якім статусе іх будзе прымаць?

Хто тыя людзі, што былі ў зале? І чаму беларусы мусяць лічыць інаўгураваную асобу сваім прэзідэнтам, а не кіраўніком людзей, якім пра тую падпольную інаўгурацыю як след паведамілі?

Няўжо цяпер і дарадцы прэзідэнта выходзяць з таго, што пратэсты ў агляднай будучыні нікуды не знікнуць і сітуацыя не зробіцца спакайнейшай?

Хто дакладна гэта прыдумаў, гэты фармат? Хто яго зацвердзіў, праз якія стадыі выспявання праходзіла ідэя «партызанскай інаўгурацыі»? Прозвішчы датычных увойдуць у ганаровую кнігу беларускага супраціву, бо больш падставы для кіраўніка, які лічыць, што набраў 80 адсоткаў, зрабіць было немагчыма.

Калі вы засакрэцілі інаўгурацыю, ці не наспеў час засакрэціць і спісы членаў урада, міністраў, чыноўнікаў, дэпутатаў? Бо як нехта наверсе байца рабіць гучны анонс свайго ўрачыстага ўваходу ў кіраванне краінай, чаму ягоныя падначаленыя не мусяць пачаць баяцца ўласнай датычнасці да гэткай сістэмы?

Праведзеная як след інаўгурацыя – адзін са складнікаў легітымнасці. Якую легітымнасць адкрывае такая інаўгурацыя? І чаму і як тая легітымнасць можа выходзіць за межы пакоя, у якім адбываўся сакрэтны рытуал?

Калі Расія – асноўны стратэгічны партнёр чалавека, які патаемна інаўгураваўся, чаму пра падзеі ў Палацы 23 верасня не ведалі нават у Крамлі? І што гэта кажа пра сапраўдны ўзровень даверу паміж партнёрамі?

Якім чынам праезд картэжу па перакрытым праспекце замяняе анансаванне мерапрыемства і чаму мусіць успрымацца як праява таго, што падзея не была сакрэтнай?

ЕС бачыў Лукашэнку легітымным прэзідэнтам да 5 лістапада, часу заканчэння паўнамоцтваў у мінулай кадэнцыі. Менавіта ў такой якасці планавался перамовы з ім па перападоленні палітычнага крызісу. Наяўнасць якога яскрава падкрэсліваю акалічнасці інаўгурацыі. Прыняцце пасведчання азначае, што папярэдні тэрмін скончаны і пачаўся новы. З кім зараз мусіць перамаўляцца ЕС?

*(budzma.by)*

КАК БЫЛО...

# Странное закулисье

*Артистов пригласили в музей «создавать партию», а оказалось – на инаугурацию Лукашенко.*

23 сентября в Минске состоялась «тайная» церемония инаугурации Александра Лукашенко. Мероприятие не анонсировалось, приглашенные гости до последнего момента не подозревали, зачем их свозят в Дворец Независимости. Как проходило секретное торжество, рассказали белорусские певицы сестры Александра и Валентина Груздевы. Оказалось, всех сначала собрали в музее под предлогом «создания партии».



– Накануне инаугурации поздно вечером нам позвонили и сообщили, что 23 сентября мы должны приехать в Музей истории Великой Отечественной войны на какое-то протокольное мероприятие, – начала Валентина Груздева. – Предупредили, что форма одежды – парадная, посоветовали сделать прическу, накраситься, потому что планируется протокольная съемка.

**– Вы спросили, по поводу чего мероприятие?**

– Сказали, что надо обсудить ситуацию в стране, может, даже партию какую создадим. Мы поняли, что надо быть на месте в 9 утра.

**– Музей истории ВОВ стал местом сбора всех присутствующих на инаугурации?**

– В музее собрались только актеры кино и театра, артисты шоу-бизнеса, представители культуры. К нам вышел министр культуры, поблагодарил всех за нашу позицию, сказал: если у артистов имеются какие-то предложения, можно высказываться, каждого выслушают, но и так далее. Когда все высказались, министр попросили пройти в автобус, предупредил, что нас отвезут во Дворец Независимости, где всех ждет маленький сюрприз.

**– На то, что сюрприз будет связан с президентом, вам намекнули?**

– Министр сказал, что там нас ждет президент, он хочет кое-что сказать. Мы подумали, что состоится простая встреча с президентом.

К тому времени, как мы подъехали, около Дворца Независимости уже собралcя народ. Все прошли на территорию дворца. Погода стояла шикарная, небо голубое, внутри били фонтаны. Обстановка торжественная.

Мы шли под руку с нашим певцом Александром Солодухой. Он первый раз присутствовал на церемонии инаугурации и вообще впервые оказался во Дворце Независимости, как и мы. Зашли в зал. Думали, что можно садиться, куда захотим, но оказалось, что на каждое кресло положили листочки бумаги с указателями, кто где сидит. Выделили места для сотрудников суда, представителей Совета Республики Беларусь, отдельно сидели министры. Нам повезло, мы заняли место посередине зала. Когда президент шел по красной дорожке, мы его хорошо видели.

**– Примерно сколько человек собралось в зале?**

– На мой взгляд, от 450 до 700 человек, не больше, – присоединяет к разговору Александра Груздева.

**– Кого еще заметили из известных персон?**

– В зале сидел посол Республики Беларусь в России, было много спортсменов – все нарядные, с прическами. Собрался весь свет нации. Известные журналисты были в числе приглашенных.

**– Зарубежные гости приехали?**

– Кто-то приехал.

**– Как вы это поняли – что гости из других стран?**

– Нас фотографировал один очень важный человек. Нам потом сказали об этом. Мы не можем пока называть его имя, но вы вскоре прочитаете в новостях.

Мы заметили красивые люстры, как нам показалось, с кристаллами Сваровски. Но Солодуха нас поправил, сказал, что во дворце нет ничего зарубежного, люстра сделана на нашем стеклозаводе, плитка тоже отечественная. Еще Солодуха заметил, что во дворце играл президентский оркестр. Мы подумали, что это фонограмма. Но коллега заверил, что он на слух распознает живую музыку.

**– Когда собравшиеся поняли наконец, на какое мероприятие попали?**

– До последнего никто ничего не подозревал. Когда все расселись, я заметила военных в парадной форме, их было очень много. И тут до меня дошло, что мы присутствуем на инаугурации. Свои предположения я озвучила вслух. Солодуха не поверил: «Вы уверены? Я ведь не побрился». Да, мы, собственно, тоже не наряжались особо. Не знали ведь, где окажемся.

Когда стали выносить флаги, вот тогда уже собравшиеся стали догадываться, что сейчас произойдет что-то очень торжественное. И вдруг в зал зашел президент. Заместитель премьер-министра Республики Беларусь Наталья Кочанова объявила в микрофон, что сегодня состоится инаугурация.

**– Народ удивился?**

– Конечно. Но у многих в этот момент выступили слезы радости на глазах, люди были счастливы. Мы смотрели вокруг и замечали, что народ не сдерживал эмоций, все поздравляли друг друга, жали руки, это был праздник. Ни одного хмурого лица не увидели.

**– Кстати, говорят в зале так громко аплодировали, что было слышно на улице.**

– Громко? Мне не показалось, что так уж громко. Но мы лично аплодировали во всю мощь.

**– Долго выступал Лукашенко?**

– Минут 20–30 говорил речь в зале. Потом нас попросили пройти во внутренний дворик, где стояли военные с ружьями. Там к собравшимся снова вышел президент, он уже успел переодеться в военную форму. Там говорил речь.

**– Вы фотографировали все происходящее?**

– Телефоны у всех забрали. Каждый человек положил свой аппарат в личную ячейку.

**– Телевизионные камеры на церемонии были?**

– Журналистов было немного, но съемки велись, нас фотографировали. Мы даже интервью дали каналу ОНТ.

**– После окончания мероприятия банкет накрыли?**

– После ничего не было. А вот перед тем, как пройти во Дворец Независимости, для гостей организовали кофейно-чайную паузу. Кормили бутербродами и конфетами. Мы взяли пять конфет. Есть их не станем, будем хранить как сувенир от президента.

В конце артистов посадили в автобус и отвезли обратно к Музею истории ВОВ. А мы отправились в гости к Солодухе.

*(«МК».)*

СЛЫШАЛИ?

# Старший сын министра иностранных дел Владимира Макея уволился из ведомства

Об этом сообщает издание «Наша Нива» со ссылкой на собственные источники. Утверждается, что **Виталий Макей** ушел с должности старшего советника управления устойчивого развития главного управления многосторонней дипломатии.

На этой должности Виталий Макей трудился последние три года. Пояснять причины своего ухода из МИД он отказался: *«Я воздержусь от ответа. Надеюсь на ваше понимание»*.

В свою очередь пресс-секретарь МИД **Анатолий Глаз** отказался подтвердить или опровергнуть информацию об увольнении Виталия Макея. Пресс-секретарь отметил, что никогда не комментирует кадровую политику министерства.

Ранее Виталий Макей занимал должность первого секретаря Посольства Беларуси в Австрии, а также подрабатывал советником по экономическим и экологическим вопросам в представительстве Беларуси при ООН. Чем далее намерен заниматься старший сын главы МИД – не известно.

ГРЫМАСЫ ФЕМІДЫ

# Толькі за адзін дзень судоў – 1755 рублёў штрафаў

Гродзенцаў **Вадзіма Саранчукова**, **Юрыя Юрэвіча**, **Лізавету Мяляк** і **Мікалая Лемяноўскага** судзілі за ўдзел у мірных акцыях пратэсту.

Лізавеце Мяляк і Юрыю Юрэвічу прысудзілі штраф па 10 базавых велічынь (270 рублёў), Мікалаю Лемяноўскаму – 15 базавых велічынь (405 рублёў), Вадзіму Саранчукову – 30 базавых велічынь (810 рублёў).

І гэта ўсё ў адзін дзень.

Вадзім Саранчукоў сказаў пасля суда “Народнай Волі”, што не прызнаў сваёй віны: *“Мая пазіцыя абсалютна ясная: кожны грамадзянін, згодна з Канстытуцыяй, мае права на свае меркаванні і права свабодна іх выказваць. Таму гэты прысуд я лічу незаконным і ,безумоўна, буду яго абскарджваць”.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

НУ И НУ!

# МВД: в Беларуси на акциях протеста 23 сентября задержали 364 человека

Министерство внутренних дел опубликовало статистику о количестве людей, задержанных на протестных акциях 23 сентября. Согласно официальным данным, по всей стране за нарушение законодательства о массовых мероприятиях были задержаны 364 человека, в том числе 252 – в Минске. До рассмотрения в суде дел по административным правонарушениям под стражей остаются 320 человек.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



# Братство автозака

До 9 августа многие из нас не знали своих соседей по двору. По дому. Даже по подъезду. Мы жили в атомизированном постсоветском обществе, когда каждый был сам за себя, каждый сосредоточился на собственной судьбе и судьбе своей семьи.

Сейчас ситуация изменилась. Мы начали смотреть в глаза друг другу. Мы начали смотреть, во что одеты наши соседи. Вот пошла девушка, в волосы которой вплетены белые и красная ленты. Вот проехал на велосипеде бородатый парень (айтишник) в майке с «Погоней». Вот старушка, чем-то напоминающая Нину Багинскую, отряхивает песок с рубашки заигравшегося внука. А вот здоровый молодой мужчина садится в новенькую «тойоту» вместе со счастливой женой и дочкой, и если бы ты не видел его фотографию в телеграм-канале «Каратели Беларуси», то никогда не догадался бы о его профессии.

Когда-то, в советские времена, в школе на уроках обществоведения мы изучали «новую человеческую общность – советский народ». Социалистические идеологи, обобщая опыт «перековки» зэков на Беломорканале, в лагерях и колониях, изучая, как нормы «советского общежития» сказываются на нашей психике, пришли к выводу: стираются грани между городом и деревней, нивелируются национальные и социальные различия, расцветает коллективизм. Советский народ – вот имя принципиально нового субъекта истории.

Наверное, в этом было что-то рациональное. Но в недолгую горбачевскую эпоху советское общежитие барачно-казарменного типа рухнуло, оставив после себя ностальгию. Не ностальгию по «сильной руке» – кто из нормальных людей бросится сегодня воспевать Сталина? И даже не по дешевой колбасе и мороженому по 20 копеек. Нет. Ностальгировали как раз по общности. По соседям, которых знали и любили. По возможности выйти во двор и два часа говорить с полузнакомым человеком открыто, не боясь, что он «настучит» на тебя в КГБ.

Ностальгировали по лучшему, что я могу вспомнить. По общению.

И вот сейчас, отчасти – еще до 9 августа, отчасти – и намного сильнее – после него, чувство принадлежности к некоей общности начало возвращаться.

Мне рассказывал парень, сын моего друга. Его бросили в автозак, избили, потом в РУВД отпустили (дело было 11 августа). Он шел избитый и плакал от ощущения одиночества. И вдруг остановилась машина – и его подвезли. И слезы высохли. Просто потому, что пожилой человек, сидевший за рулем ветхого «опеля», всю дорогу говорил ему, что он не один, что где-то в автозаке, наверное, сидит его внучка, которая ушла бороться против лжи…

Мне рассказывали люди, встречавшие тех, кого выпускали, на Окрестина и в Жодино.

Мне рассказывал врач, оказывавший помощь избитым.

Мне писал мой бывший ученик, который вместе с семьей ходит по выходным на акции.

Я читаю в социальных сетях признания артистов, студентов, предпринимателей, инженеров, чиновников.

Они все говорят и пишут об одном и том же: оказывается, вокруг живут прекрасные, умные, сильные люди. Их много. С ними хочется разговаривать, и есть о чем поговорить.

И они все готовы говорить не только о Лукашенко. «Наш бывший» уже никому не интересен. Они готовы читать о нем в учебнике истории, но эту страницу учебника они уже перелистнули. Им хочется говорить о будущем. Об искусстве и экономике. Хочется обсуждать спектакли и международную политику. Хочется не потерять больше этих неожиданно ставших тебе близкими людей.

Дубинками 9 августа нас всех – бывших там и не бывших – вколотили в огромный автозак, где мы слышали дыхание друг друга. Они – в балаклавах, сквозь прорези которых были видны лишь их белые от ужаса перед нами глаза, – наверное, думали о том, как это унизительно. Как нам будет стыдно отрывать взгляд от пола. Но ощущение боли и обиды оказалось навсегда заглушенным чувством горячей любви. Любви к Беларуси, которая должна быть свободной и демократичной, независимой и процветающей.

Они, те что в балаклавах, так и не поняли, почему эти люди вышли на улицы. Им ответили спустя день-другой артисты Купаловского театра, уволившиеся всем коллективом в знак протеста против избиения ОМОНом тех, кто во имя справедливости решил отстаивать свои голоса, украденные у них на президентских выборах.

Им, балаклавам, ответили врачи, преподаватели, спортсмены, рабочие, открыто заявившие о своих взглядах, указавшие в интернете имена и должности.

«Балаклавы» не поняли, почему люди тысячами, сотнями тысяч протестуют до сих пор. Они, надев маски и спрятав свои лица, считают, что за деньги можно стрелять, но подставляться под пули, пусть даже резиновые, под водометы, под светошумовые гранаты ради какой-то идеи невозможно.

У народа, который после 9 августа показал свое мужество, другие понятия. Хотя возможность ходить спокойно без «балаклав» на лице, не подтирать судорожно аккаунты в социальных сетях и здороваться с парнем, у которого на майке нарисована «Погоня», – стоит дорогого. Потому что, может быть, в нашей ситуации это и означает быть свободным человеком. Даже в автозаке.

Будем считать, что создана новая человеческая общность – народ свободных белорусов. И автозаки этому, на мой взгляд, сильно поспособствовали.

ЛИЦО В ЛИЦО

# «По самые помидоры замарались»

*Что высказали люди милиционеру на площади в Жабинке, когда он пришел снимать БЧБ-флаг?*

*К людям, которые каждый вечер собираются на городской площади в Жабинке, пришел начальник отдела охраны правопорядка и профилактики Жабинковского РОВД* ***Дмитрий Салей****. С требованием снять БЧБ-флаг, который в это время висел на перилах ДК. И вот какой разговор состоялся у него с «объектами профилактики» (приводим диктофонную запись в несколько сокращенном виде).*

**Голоса из толпы:**

– Если у нас украли выборы, что нам остается делать? Ждать, пока нам дадут разрешение на митинг, ждать месяц, два?..

**Дмитрий Салей:**

– Милиция вам не покажет эти протоколы, как вы не понимаете?..

**Голоса людей:**

– А вы выступаете как карательный орган в плане задержаний. Ребята, у вас сегодня очень шаткое положение, так что думайте, что вы делаете и для кого вы это делаете.

– Меня оштрафовали на 20 базовых – а за что? Я стоял со всеми людьми, с флагом. Ущерб кому-то нанес или ущерб чему-то?

– А кто ответит за то, что били вот здесь людей, на площади? Что в Минске, Гродно и других городах людей бьют?

– У каждого человека есть выбор, за определенной чертой есть выбор!

**Салей:**

– Нету, нету выбора.

**Голоса людей:**

– На сегодняшний день вы не в лучшем положении относительно граждан, которые живут в этой стране, понимаете? Вы лично ничего плохого никому не делаете, но вы в системе, которая многими проклята на сегодняшний день.

– А если вам скажут завтра нас побить, дадут в руки оружие или дубинку? Что вы будете делать?

**Салей:**

– Я не буду отвечать на такие вопросы.

**Голоса людей:**



– 9, 10 августа вы здесь стояли, ОМОН вызвали, это позор какой-то!

**Салей:**

– Вы хотите, чтобы я ответственность взял?

**Голоса людей:**

– Почему вы тогда ходите сюда, если ни на один вопрос не можете ответить?

– Вы за свои действия не отвечаете, вы нас отсылаете в УВД. Простите, я вам задаю вопрос.

– Вы – гражданин Республики Беларусь. Вы получаете зарплату с наших налогов и должны нас защищать, отстаивать наши права. Вы отстаиваете ложь.

**Салей:**

– Какую ложь?

**Голос из толпы:**

– Элементарную. Протоколы, которые вы выдаете с датами неправильными, с отчествами. Это называется халатное отношение к работе, фальсификация документа, и вы не знаете об этом?

**Салей:**

– Знаю.

**Голоса людей:**

– Теперь уже знаете. Знаете, что есть статьи определенные, под которые вы попадаете. И вы ходите под этими статьями. Думайте.

– Реально, человеку 20 базовых дали – за что?! А те, кто бил 9, 10 августа?

**Салей:**

– А при чем здесь я, скажите?

**Голоса людей:**

– Сотрудники правоохранительных органов 9, 10, 11 числа работали в масках. Если бы их можно было идентифицировать, мы предъявляли бы требования к тем, кто бил, но поскольку они все были в масках, поэтому под подозрение попадает любой из вас.

– Вы работаете в этой системе, вы ее представляете, вы сделали свой выбор. Вы видите, что все перешло черту, что это полный беспредел и беззаконие в отношении белорусов, которые войну прошли, от Чернобыля пострадали. И вы, оставаясь в этой системе, сделали свой выбор.

**Салей:**

– Я в системе, я сделал свой выбор.

**Голоса людей:**

– Мы стояли 9 августа около райисполкома, просто ждали результатов. Я пошла с ребенком, я не знала, что так опасно.

– ОМОН пригнали в два часа ночи, щиты поставили напротив женщин и детей. Молодежь стояла – ни одного бычка никто не кинул. А наша милиция... Они стояли и смеялись около райисполкома. По самые помидоры замарались.

– Мы вывесили флаг. Покажите закон, который запрещает национальную символику. Вы представляете законодательную власть, и мы вас ждем, приглашаем приехать с законом.

**Салей:**

– Так не будет, как вы захотите. Я приеду, когда захочу.

**Голоса людей:**

– Можете каждый день к нам приходить...

– Мы понимаем, человек, который получает физические увечья, становится более сговорчивым. А вы физически будете участвовать в наказании?

**Салей:**

– Я не буду отвечать на такие вопросы.

**Голос из толпы:**

– Вы не хотите отвечать за последствия вашего ответа.

**Салей:**

– Если я перед кем-то виноват или кто-то виноват – они за это ответят, понимаете? И я в том числе.

**Голоса людей:**

– А вы понимаете, что в ответе не только за себя, а как частичка этой системы несете ответ.

– Я как учитель несу ответственность за педагогов, которые сидели, фальсифицировали и ржали при этом. А вы несете ответственность за всё, что с нами сотворили. Вы подтверждаете, что выборы сфальсифицированы?

**Салей:**

– Я не могу этого знать. Мы отвечаем за охрану общественного порядка.

**Голос из толпы:**

– Вы знаете ответ на этот вопрос, поэтому вы здесь и стоите.

*На следующий день после этого разговора на площади города-спутника появился «бесцветный» флаг. Но милиционеров в этот вечер не было.*

*(«Вечерний Брест».)*

ТАК БЫЛО

# «…У выніку я страціла цяжарнасць»

*Гісторыя гродзенкі, якую затрымалі ва ўласным аўтамабілі побач з домам і якая прайшла праз усе жорны сучаснай беларускай сістэмы*

Карына Маліноўская – маладая мама, гадуе паўтарагадовую дачушку. У яе магло быць яшчэ адно дзіця, але лёс распарадзіўся па-іншаму…

## Пагрозы, лаянка і ціск...

– Мяне затрымалі 11 жніўня побач з домам, – *распавядае Карына.* – Я сядзела ў машыне і размаўляла з мамай па тэлефоне. Падышлі трое ў цывільным, самі адчынілі дзверцы машыны і патрабавалі выйсці: маўляў, я павінна праехаць з імі ў пастарунак.

*Карына паказвае відэа, якое знялі яе суседзі па доме.*

– Прывезлі ў Ленінскі РАУС на вуліцы Дубко і завялі ў кабінет, дзе было шмат супрацоўнікаў міліцыі ў форме. Зайшлі яшчэ двое, адзін быў у балаклаве. Другі, апрануты ў цывільнае, адразу даў мне па карку так, што я павалілася на падлогу.

Пачаліся пагрозы, прычым праз лаянку, мяне абзывалі, палохалі, што забяруць дзіця, што затрымаюць маю маму, якая ўжо прыбегла да будынка РАУС.

## Патрабавалі падпісаць пратакол

– Мяне прынялі за аднаго з каардынатараў вулічных акцый. 10 жніўня я размаўляла па тэлефоне са знаёмым хлопцам, які з'яўляецца грамадскім актывістам. Размову, відавочна, падслухалі. Яго схапілі ў той дзень, калі ён ішоў да мяне на сустрэчу, а за мной прыйшлі на наступны.

Ад мяне патрабавалі падпісаць пратакол, калі я не хачу, каб адабралі дзіця. Умовы такія: калі пратакол будзе падпісаны, мяне завязуць у турму, там асудзяць і адпусцяць.

Нехта спадцішка моцна ўдарыў мяне ў жывот. Я закрычала, што цяжарная. Пасля гэтага яны зачынілі мяне ў камеры. Праз гадзіны тры ў мяне пачаў моцна балець жывот, я папрасіла выклікаць "хуткую дапамогу". У чарговы раз сказала ім, што цяжарная.

Праз некалькі хвілін у камеру прыйшоў мужчына, які аказваў на мяне псіхалагічны ціск, і жанчына. Ніхто з іх не прадставіўся, я не ведаю нават іх прозвішчаў. Яны пагражалі: калі акажацца, што я не цяжарная, то пайду ў спортзалу (гэта месца, дзе катавалі затрыманых).

Мяне агледзела доктарка, якая была ў РАУС, і сказала, што не ўпэўнена ў маёй цяжарнасці. Я адкрыта ім заявіла: калі са мной нешта здарыцца, яны будуць за гэта адказваць. Відаць, мае словы іх пераканалі, паколькі яны ўсё ж выклікалі "хуткую дапамогу".

## Шпіталь, турма...

– Мяне завезлі ў гарадскі шпіталь, дзе гінеколаг правёў агляд, зрабілі УГД. Доктар пацвердзіў цяжарнасць і выказаў заклапочанасць тым, што ў мяне ёсць кіста. Ён настойваў на тэрміновай шпіталізацыі, каб праводзіць неабходнае лячэнне.

Я перадала гэтыя словы міліцыянерам, а мне ў адказ жанчына ў форме, якая мяне суправаджала, сказала, што калі я застануся, то мяне прышпіляць кайданкамі да ложка, а потым, маўляў, мне ўсё роўна давядзецца ісці ў турму. І прапанавала іншы варыянт: едзеш з намі ў РАУС, раніцай цябе адвозяць у турму, там адбудзецца суд, і цябе адпусцяць дадому.

Я пагадзілася, паколькі ўвесь час думала аб тым, што будзе з маім дзіцём, і не ўяўляла, як буду ляжаць прыкаваная кайданкамі да ложка..

Адзінае, аб чым я папрасіла маіх суправаджаючых, каб мяне больш не білі.





## «Я адварочвала твар...»

– У турме я адразу ўбачыла, як збіваюць мужчын. Мяне таксама хацелі біць, але нехта з міліцыянераў крыкнуў, што я цяжарная, і мяне адвялі ўбок.

Я адварочвала твар, калі білі мужчын, але адзін з міліцыянераў увесь час паварочваў яго так, каб я бачыла, што адбываецца. Гэта нагадвала кадры з фільма: гестапа ў чорным адзенні збівае ні ў чым не вінаватых людзей, жорстка, без шкадавання. Дзікунства!

Мяне пачало трэсці, нібы ў ліхаманцы. Гэта іх напалохала, і мяне павялі да доктара.

Фельчар у турме аказаўся больш чалавечным, распытаў пра мой стан і выклікаў "хуткую". Мяне зноў павезлі ў шпіталь. Там зафіксавалі разрыў кісты, і доктар сказаў, што патрэбна неадкладная аперацыя. Мяне прааперыравалі а 5-й гадзіне раніцы. Пазней я даведалася, што страціла цяжарнасць...

Я ляжала там некалькі дзён, ніхто з міліцыі мяне не турбаваў.

## Прымусілі казаць тое, чаго не было

– Калі я ўжо апынулася дома, пачалі тэлефанаваць нібыта з міліцыі. Не прадстаўляючыся, патрабавалі, каб я прыйшла да іх, падпісала пратакол і атрымала штраф за тое, што была затрымана 11 жніўня. Паводле таго пратакола, я нібыта нецэнзурна лаялася каля пад'езда, крычала, кідалася на людзей і г.д.

Калі пазней мы з адвакатам азнаёміліся з матэрыяламі адміністрацыйнай справы, там было яшчэ запісана, што я нібыта гандлявала петардамі. Насамрэч я ніколі не мела да гандлю петардамі ніякага дачынення.

Тут трэба сказаць тое, што я прапусціла ў сваім аповедзе. Калі мяне затрымалі 11 жніўня і пагражалі забраць дзіця, яны выставілі умову: не зробяць гэтага, калі я на відэакамеру скажу, што гандлявала петардамі і перадавала іх свайму знаёмаму, які потым на акцыях кідаў іх у міліцыянераў. Яны прымусілі мяне казаць тое, чаго не было.

Падчас запісу я праз кожныя некалькі секунд перапытвала: так, правільна, гэта тое, што трэба? І гэта ў нейкім сэнсе дапамагло, бо сапсавала запіс. Пазней мяне разам з іншымі ўсё ж паказвалі па БТ, але там усе прызнаваліся ў нейкіх злачынствах, а майго голасу на экране не было – толькі твар. Дарэчы, за гэта я збіраюся падаць у суд на БТ.

## Буду далей судзіцца

– Урэшце я адмовілася падпісваць пратакол, і тады мне патлумачылі, што складуць новы – за ўдзел у "ланцугу салідарнасці", на якім я прысутнічала 14 жніўня. Насамрэч пазней міліцыянеры прыехалі дадому, прывезлі пратакол і позву ў суд.

Але ў той час у мяне хварэла дзіця, я ім паведаміла, што ў суд не прыеду, бо знаходжуся на бальнічным. Яны прапаноўвалі прыслаць за мной машыну. Потым суддзя прысылаў СМС, каб я з'явілася, я адказала, што маю на руках бальнічны.

У пятніцу быў апошні дзень тэрміну разгляду справы аб адміністрацыйным правапарушэнні, і ў панядзелак, паводле дзеючага заканадаўства, яны не маглі мяне судзіць. Тым не менш асудзілі на 10 базавых велічынь.

Зараз я рыхтую апеляцыю ў абласны суд на рашэнне суда Ленінскага раёна г.Гродна.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

З-ЗА КРАТАЎ

# Мікалай Статкевіч не атрымлівае незалежную прэсу па падпісцы

Не так даўно жонка Статкевіча Марына Адамовіч передала яму ў следчы ізалятар Жодзіна тэлевізар.

*"Газет жа няма, хоць ад прапагандонаў нешта пачуе,* – распавядае Марына. – *Пытаюся: ці працуе?"*

*"... Тэлевізар працуе,* – адказаў у адным з лістоў Мікола Статкевіч. – *Хоць з-за размяшчэння разеткі яго прыходзіцца ставіць на*



*тазік. Але я гляджу пераважна інфармацыйныя перадачы. Таму глядзець іх з тазіка – у гэтым ёсць пэўны сімвалізм".*

Статкевіч не атрымлівае незалежную прэсу, на якую быў падпісаны ў ізалятары. Жонка ў сваім лісце патлумачыла яму, з-за чаго гэта здарылася.

*"Тут амаль пастаянна працуе першая праграма беларускага радыё*, – напісаў Статкевіч ў чарговым лісце Марыне Адамовіч. – *Ды яшчэ навіны па тэлевізары з тазіка гляджу. Так што афіцыйная інфармацыя ёсць. Але альтэрнатыўнай не стае. З тазіка ўвесь час толькі і кажуць пра пратэсты. Сёння сказалі, што затрыманы 91 чалавек перад сённяшняй акцыяй. Мая павага людзям, якія выходзяць!*

*Масавая блакіроўка альтэрнатыўных сайтаў у такія часы, калі каласальны попыт на альтэрнатыўную інфармацыю, сапраўды прывядзе толькі да масавага выкарыстання сродкаў абыходу блакіровак. Ды росту папулярнасці тэлеграм-каналаў і аднаўлення цікаўнасці да сацсетак".*

**Галіна РУТ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 25 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Каранавірус супраць хакеістаў: хто каго?

*Чэмпіянат Кантынентальнай хакейнай лігі можа зноў не закончыцца.*

16 сакавіка гэтага года КХЛ абвясціла аб прыпыненні сезона. Да таго моманту фінскі "Ёкерыт" і "Барыс" з Астаны, якія працягвалі разам з шасцю расійскімі камандамі барацьбу ў плэй-оф, у аднабаковым парадку зняліся з турніру на фоне закрыцця межаў і абмежавання міжнародных авіяпералётаў.

Кіраўніцтва Лігі адзначыла, што правядзенне гульняў без удзелу фінскага і казахстанскага клубаў было б парушэннем спартыўнага прынцыпу.

Кожная краіна змагалася з каранавірусам сваімі метадамі, але ў верасні новы сезон КХЛ стартаваў па раскладзе. Зрабілі выгляд, што пандэмію як быццам ужо перамаглі. Праўда, з'явіліся абмежаванні для гледачоў – сталі менш квіткоў прадаваць на матчы, каб балельшчыкі маглі захоўваць дыстанцыю.




Чэмпіянат толькі стартаваў, а навіны ўжо паступаюць сумныя і трывожныя.

Напрыклад, старшыня савета дырэктараў рыжскага "Дынама" Юрыс Савіцкіс заявіў, што клуб сыходзіць на двухтыднёвы каранцін з-за таго, што ў камандзе шмат захварэлых на каранавірус. Станоўчыя вынікі тэсціравання выяўлены ў дзесяці (!) хакеістаў.

У выніку бліжэйшыя матчы рыжан ў КХЛ не адбудуцца. У тым ліку і гульня 1 кастрычніка з мінскім "Дынама".

Раней быў перанесены на нявызначаны тэрмін матч рыжан з "Тарпеда", які павінен быў прайсці 22 верасня.

Дарэчы, "Дынама-Рыга" – ужо трэці клуб КХЛ, які вымушана бярэ паўзу ў першынстве. Да яго на самаізаляцыю адправіліся тыя самыя "Ёкерыт" і "Барыс", якія адмовіліся гуляць з-за эпідэміі ў сакавіку.

Чатыры бліжэйшыя матчы чэмпіянату КХЛ з удзелам "Ёкерыта", якія павінны былі адбыцца 15 верасня з "Северсталлю", 17 верасня – з "Металургам", 19 верасня – з "Віцязем" і 21 верасня – з ЦСКА, таксама перанесены на больш позні тэрмін.

Ігракі фінскай каманды трапілі ў кантактную групу па рашэнні органаў аховы здароўя Фінляндыі пасля таго, як стала вядома, што ў прадстаўнікоў расійскага "Нафтахіміка", з якім "Ёкерыт" праводзіў папярэдні матч рэгулярнага чэмпіянату, былі выяўлены станоўчыя вынікі пасля праходжання абавязковых экспрэс-тэстаў на каранавірус.

У адпаведнасці з загадам фінскіх улад "Ёкерыт" павінен прайсці двухтыднёвы каранцін, з-за чаго правядзенне чатырох бліжэйшых матчаў каманды немагчыма.

Адным словам, старт першынства, як той першы блін, адразу аказаўся камяком, і, магчыма, гэта толькі кветачкі, а ягадкі чакаюць наперадзе. Бо, скажам, у Беларусі апошнім часам назіраецца рост захварэлых на каранавірус, а другую хвалю самі медыкі прагназуюць на лістапад-снежань. Таму зусім магчыма, што там ужо будзе і не да хакея. Стаўкі на тое, што першынство ў чарговы раз спыняць, вельмі высокія.

А вось балельшчыкаў мінскага "Дынама" такая сітуацыя не можа радаваць, бо якраз-такі ў гэтым сезоне "Зубры" стартавалі як ніколі добра. Шкада, што можам не ўбачыць развязку. Калі толькі кіраўніцтва КХЛ не прыслухаецца да парадаў аднаго беларускага "доктара", які заявіў, што "самае лепшае лякарства ад каранвіруса – гэта хакей".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЫМ ЧАСАМ

*Былы кіраўнік федэрацыі хакея Латвіі Кіраў Ліпман не выключае, што з-за пандэміі і ў 2021 годзе чэмпіянат свету па хакеі, які павінен быў прайсці ў Рызе і Мінску, можа не адбыцца.*

"Псіхалогія людзей такая, што яны адразу ж не пагодзяцца з тым, што пандэмія скончылася (каля яна на самай справе скончыцца ў наступным годзе), – *кажа Ліпман.* – Яны не змогуць тут жа адкінуць думкі пра яе, усё роўна людзі будуць працягваць баяцца каранавіруса.

Таму далёка не факт, што балельшчыкі рызыкнуць ісці на стадыён і запаўняць трыбуны. Спачатку людзі будуць баяцца наведваць масавыя мерапрыемствы, уключаючы спартыўныя.

Але ўсё роўна трэба быць аптымістам. Калі да вясны наступнага года праблема знікне, то яна знікне ва ўсіх. І ўжо дакладна беларусы пры любых абставінах пагодзяцца праводзіць чэмпіянат свету".

ІНІЦЫЯТЫВА

# За два дні красоўкі Алены Леўчанка падаражэлі амаль у 20 разоў!

*Вядомая баскетбалістка выставіла свой абутак на аўкцыён.*

У красоўках, якія Алена Леўчанка выставіла на аўкцыён, яна выступала на Алімпіядзе ў Рыа ў 2016 годзе. Атрыманыя за іх сродкі спартсменка плануе адправіць у Фонд салідарнасці спартсменаў.

Нагадаем, што гэты фонд створаны для падтрымкі спартсменаў, якія адкрыта заявілі аб сваёй нязгодзе з вынікамі прэзідэнцкіх выбараў і выступілі супраць гвалту з боку сілавікоў.



*"Зараз праходзіць аўкцыён, на якім многія вядомыя спартсмены Беларусі выстаўляюць нейкую сваю атрыбутыку,* – кажа Алена Леўчанка. – *Уся выручка, атрыманая ад продажу спартыўных рэліквій, пойдзе ў Фонд спартыўнай салідарнасці BYSOL. Фонд прымае заяўкі ад тых, хто мае патрэбу ў дапамозе, і размяркоўвае гэтую дапамогу на падставе прынцыпаў адкрытасці і празрыстасці.*

*Я вырашыла выставіць свае красоўкі, у якіх гуляла на Алімпіядзе ў Рыа ў 2016 годзе. Гэта была мая другая Алімпіяда. Гэтыя красоўкі імянныя, з маім нумарам 11, на іх напісана «BELARUS».*

*Такія красоўкі адзіныя ў свеце. Яны для мяне асаблівыя. Але яны будуць яшчэ больш асаблівымі, калі прынясуць карысць і дапамогуць людзям, якія ў гэтым зараз маюць патрэбу. Давайце разам падтрымаем адзін аднаго, бо толькі так мы даведаемся пра нашу сапраўдную сілу".*

Стартавая цана на красоўкі баскетбалісткі была 100 рублёў, але за два дні яна вырасла да 1950 рублёў. Аўкцыён працягнецца да 1 кастрычніка.

**Віктар ШПАК.**

КРЫЖАВАНКА

# «Сэрца, зямля мая…»



**Па гарызанталі:** 3."За цябе маё сэрца балела, // Дарагая мая …" – з верша А.Салаўя "Беларусь". 29 верасня – Сусветны дзень сэрца. 8.Малыя дзеці – … баляць, вялікія – сэрца баліць (прык.). 9."Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю – // Ой, пайду я з цеснай хаты ў тое …" – з верша М.Багдановіча "Сэрца ные". 10.Ісціна ў віне, а … – у вадзе (прык.). 13. … – імя вядомага беларускага пісьменніка, аўтара рамана "Сэрца на далоні". 14. … памірае апошняй (прык.). 30 верасня – Дзень Надзеі, Веры і Любові. 15.Сіла, якая цягне чалавека да якіх-небудзь дзеянняў; запал, прыхільнасць да чаго-небудзь. 18."… – знак любові і духоўнага багацця" – з верша М.Курылы "Песня пра хлеб". 19.Галіна дзейнасці (перан.). 22.Сэрца весяліцца – і … цвіце (прык.). 23.Раўнавага. 26.Роды ў некаторых жвачных жывёлін. 28.Драўляная лесвіца. 30."Дай, маё сэрца, … чужы // Уведаць так, як боль уласны" – з верша Ул.Някляева "Дай, маё сэрца". 32.Механізм для замыкання і размыкання электрычнага ланцуга. 33.Сэрца – …: чуе дабро і зло (прык.).

**Па вертыкалі:** 1."О, сэрца матулі, // Жывая …" – з паэмы Л.Геніюш "Куфар". 2.Добрым людзям мір, а шаленцам – галавою ў … (прык.). 3.Паўночнаамерыканскі дзікі бык. 4.Ікона. 5."… і надзея: рэчы, якія змякчаюць нам горыч жыцця" – цытата невядомага аўтара. 6.17-я літара грэчаскага алфавіта. 7."Сэрца маці – …, у глыбіні якога заўсёды знойдзецца дараванне" (А.Бальзак). 11."… – глыток вады" – з верша А.Сыса "Нявеста". 12."І з кожным днём мілей мне дружбакі, // І ўсё цвярдзей любоў, …, вера" – з верша Г.Бураўкіна "Я часам сам сябе не пазнаю". 16.На сэрцы не бывае маршчын, а толькі … (прык.). 17.Сэрца – … арганізма (прык.). 20. … законаў не ведае (прык.). 21."… , як і кожная жывая істота ад Бога, нараджаецца свабодным" (В.Быкаў). 24."О … мая, Беларусь!" – верш Ул.Караткевіча. 25.Воцат не гарэлка, а кум не … (прык.). 27."Не … ты сэрца хвалявала, // Не …" – з верша Т.Кляшторнага "Не глядзі з дакорам, дарагая". 29. … сястры, … чыстыя галубкі: Надзея, Вера і Любоў (прык.). 31.Нота музычнай гамы.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3.Беларусь. 8.Рукі. 9.Поле. 10.Здароўе. 13.Іван. 14.Надзея. 15.Цяга. 18.Хлеб. 19.Ніва. 22.Твар. 23.Баланс. 26.Ацёл. 28.Драбіна. 30.Боль. 32.Рэле. 33Чараўнік.

**Па вертыкалі:** 1.Крыніца. 2.Вір. 3.Бізон. 4.Абраз. 5.Смех. 6.Ро. 7.Бездань. 11.Пацалунак. 12.Нянавісць. 16.Рубцы. 17.Сонца. 20.Патрэба. 21.Чалавек. 24.Любоў. 25.Сваяк. 27.Адна. 29.Тры. 31.Ля.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

СІТУАЦЫЯ

# За што патрабуюць грошы ад Мікалая Казекі?

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле распавёў "Народнай Волі", што да гэтага часу не атрымаў тлумачэння з Міністэрства спорту і турызму.*



**Мікалай Казека** – славуты беларускі трэнер. На ліку яго выхаванцаў сем алімпійскіх медалёў, не кажучы пра першынствы свету і Еўропы і іншыя прэстыжныя спаборніцтвы.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў Мікалай Іванавіч вырашыў таксама акрэсліць сваю грамадзянскую пазіцыю і публічна выказаўся пра тое, што адбываецца ў краіне.

*"У гэтым жыцці не ўсё ў грашах вымяраецца,* – сказаў Мікалай Казека tribuna.com. – *Зараз патапталіся па асноўных чалавечых прынцыпах. Нават у афрыканскіх краінах такога няма. Мы ў цэнтры Еўропы, а нас за людзей не лічаць.*

*Але народ заўсёды пераможа. Пытанне толькі ў тым, колькі на гэта трэба часу і сіл. На сто працэнтаў упэўнены, што так, як было раней, ужо дакладна не будзе. Я казаў гэта перад выбарамі, калі даваў інтэрв'ю, кажу і цяпер. Так, як было раней, быць не можа. Пайшлі пратэстныя з'явы, людзі выказваюцца. Самалюбства беларусаў закранута".*

Да слова, выказаўся не толькі трэнер, але і іншыя зорныя фрыстайлісты – чэмпіёнка свету **Аляксандра Раманоўская**, трэнер **Дзмітрый Дашчынскі**…

У хуткім часе за *"дрэнную ідэалагічную працу"* быў звольнены дырэктар Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па фрыстайле **Вадзім Крывашэеў**. Але, як кажуць, святое месца пустым не застаецца. Кіраўніком цэнтра быў прызначаны **Сяргей Марчанка**, які да гэтага працаваў дырэктарам Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па вадналыжных відах спорту ў Наваполацку, а яшчэ раней быў начальнікам аддзела фізкультуры, спорту і турызму Наваполацкага гарвыканкама.

Відаць, Марчанка вырашыў не паўтараць памылкі папярэдніка, а таму з самага пачатку заняўся патрыятычным выхаваннем ненадзейных таварышаў. Першым на такое перавыхаванне патрапіў славуты трэнер Мікалай Казека, які атрымаў ліст за подпісам таго самага Сяргея Марчанкі *"аб вяртанні грашовых сродкаў у дасудовым парадку"*.

У дакуменце паведамляецца, што трэнер пазбаўлены імяннай стыпендыі прэзідэнта. Акрамя таго, з яго спаганяюць сродкі, выплачаныя *"ў перыяд з 13 ліпеня 2019 г. па 2 чэрвеня 2020 г."* (па адміністрацыйным спагнанні).

Пасля гэтага Мікалай Казека звярнуўся да міністра спорту з лістом-зваротам, каб той патлумачыў сутнасць прэтэнзій па вяртанні сродкаў.

– Ніхто і нічога мне да гэтага часу так і не патлумачыў, – кажа Мікалай Іванавіч. – Магчыма, адмыслова цягнуць час.

**– У вас якія меркаванні з гэтай нагоды?**

– Якія тут могуць быць яшчэ меркаванні? Буду чакаць да таго моманту, калі прымуць нейкае рашэнне і дадуць адказ. З гэтага месца, што называецца, і будзем танцаваць.

**– Пра якое адміністрацыйнае спагнанне ідзе размова?**

– Яно было ў мінулым годзе і ўжо даўно прайшло. Тычылася кіравання аўтамабілем…

**– Чым зараз займаецеся?**

– Праходзіў агляд у медкамісіі, а каманда трэніруецца ў цэнтры "Фрыстайл". Усе спартсмены ў зборы, працуем у штатным рэжыме. Ніякіх катаклізмаў няма, калі не лічыць, што Саша Раманоўская яшчэ цалкам не аднавілася.

***

…Сярод выхаванцаў Мікалая Казекі – алімпійскія чэмпіёны Ала Цупер і Ганна Гуськова, Аляксей Грышын і Антон Кушнір. Імя гэтага трэнера, які і ў жыцці, і ў спартыўнай кар'еры дасягнуў неверагодных вышынь, ведаюць ва ўсім свеце.

І вельмі прыкра бачыць, як сёння нейкія "моські" спрабуюць укусіць "Слана", ганьбячы свае прозвішчы. Хаця, можа быць, толькі такім чынам пра іх нехта і даведаецца.

**Алесь СІВЫ.**

ГОЛ!

## У Брэст едзе «Лудагорац»

*Вызначыўся сапернік брэсцкага «Дынама» ў плэй-оф Лігі Еўропы па футболе.*

Нагадаем, што каманда з Брэста засталася адзінай, хто прадстаўляе Беларусь у еўракубках.

У паядынку першага кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы салігорскі "Шахцёр" па выніках серыі пенальці прайграў "Сфынтул Георге" з Малдовы.

Барысаўскі БАТЭ ў матчы 2-га кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы на выездзе прайграў сафійскаму ЦСКА – 0: 2, а мінскае "Дынама" з такім жа лікам саступіла польскаму "Пясту".

Брэсцкае "Дынама" вылецела з Лігі чэмпіёнаў, прайграўшы "Макабі" з Тэль-Авіва ў выязным матчы 3-га кваліфікацыйнага раўнда (0:1), але зараз у брэстчан ёсць шанц пазмагацца за тое, каб патрапіць у групавы этап Лігі Еўропы. У плэй-оф "Дынама" згуляе з балгарскім "Лудагорцам". Матч адбудзецца 1 кастрычніка ў Брэсце.

Што мы ведаем пра балгарскую каманду?

У 2001 годзе быў створаны клуб "Разград 2000", які ў 2010-м быў перайменаваны ў "Лудагорац". У тым жа годзе гаспадаром клуба стаў мясцовы бізнесмен, які паставіў перад клубам задачу ўпершыню за сваю гісторыю выйсці ў вышэйшы дывізіён балгарскага футбола.

Для выканання гэтай задачы клуб купіў шмат зорак балгарскага футбола і за два сезоны прайшоў дыстанцыю ад трэцяга дывізіёна да вышэйшага, а ў маі 2012 года выйграў Кубак Балгарыі.

Сёння "Лудагорац" – не толькі мацнейшая ў Балгарыі каманда, але і клуб, які ўжо добра зарэкамендаваў сябе ў Еўропе. Пабачым, што скажа брэсцкае "Дынама"…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Якая лаўка больш прыгожая?



A на ніжнім здымку – лаўка пасля таго, як яе перафарбавалі камунальшчыкі пасёлка Бараўляны, што пад Мінскам.

Пагадзіцеся, змаганне ўлад з нацыянальным абуджэннем народа іншы раз выглядае нейкім пячорным дзікунствам.



Уважлівыя чытачы, мабыць, заўважылі: на двух здымках адна і тая ж лаўка. Толькі на верхнім фота яна адлюстроўвае нацыянальна-гістарычную сімволіку – бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Пакольк ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 24.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 35 000 экз. Заказ № 2481.